УПАДЗІМІР
ДЗЮБА

# ДОКТАР
# РУСЕЛЬ

Драматычная
адысея

Мінск



«Мастацкая літаратура»



1991

ББК 84 Бел7
Д43

*Кансультацыя і літаратурная рэдакцыя*
*Анатоля Вялюгіна*

*Мастак Юрый Зайцаў*

Драматическая поэма «Доктор Руссель» повествует о жизни и деятельности выдающегося деятеля международного революционного движения, ученого Николая Константиновича Судзиловского (1850—1930). Жизнь доктора Русселя (псевдоним Н. К. Судзиловского) удивительна и поистине легендарна. Он принимал участие в народническом движении в России, вел революционную пропаганду в Западной Европе, был знаком с К. Марксом и Ф. Энгельсом.

Тема Белоруссии, родины Н. К. Судзиловского, в эпико-драматическом звучании произведения представлена лирической, щемящей нотой.

Д $\frac{4702120202-092}{М 302(03)-91}$ 52—91
ISBN 5-340-00642-5

На ростанях курган у ружаватай смузе. З-за кургана ўстае расой умытае сонца. Заясніцца воблік зямлі, у павевах ветру і пошуме лісця пачуецца вешчы голас, быццам сама зямля-матухна прамаўляе:

Пад кожнаю сасной, пад кожным курганом
Паснулі мае дзеці вечным сном.
Я помню іх. Яны — не чэзлы прах,
Жыву, трымаюся на іх плячах.
Гляджу вачамі іхнімі на свет,
На сіні снег, на яблынь першацвет.
У спратах часу, верныя сыны,
Прачніцеся, рассыпце курганы!

Тады на кургане вырастае постаць сівога вандроўніка з посахам.

Вандроўнік

Я з разгуканых ростаняў дарог
Дастаўся, родная, на твой парог.
Я — доктар Русель. Выцвіў ён зусім,
У сховішчах архіўных псеўданім.
Бярозавы святлісты росны гай
Шапоча мне: Мікола... Мікалай...
Быў хатай свет. Цяжкая падарож.
Вярнуўся з выраю. Здарова, Сож!

# Горкі вырай



Пакінуўшы Расію ў 1875 годзе,
я абараняў свае пазіцыі
і адначасна ратаваў сваю душу
ад засілля драпежнікаў
у розных пунктах зямнога шара.
Маю шчасце:
пасля 40-гадовай службы справе рэвалюцыі ў Расіі
дажыў да падзення нашай Бастыліі.

Мікалай Судзілоўскі



## ФАСТАВА

## (Май 1874)

Маляўнічыя краявіды Мсціслаўшчыны. Маёнтак дваранiна Канстанціна Судзілоўскага, калежскага асэсара, сакратара Магілёўскай палаты грамадзянскага і крымінальнага суда.

Яго сын Мікалай крые альтанку. Падыходзяць бацькі.

Мікалай

Падайце мне цвікі і малаток.

Бацька

*(падае)*

Сынок, няўжо цяслярыць навучыўся?

Мікалай

Нарэшце аценілі! Я альтанку
Адштукаваць рашыў вам у дарунак.

Бацька

Не, не, ты толькі, маці, падзівіся,
Як грае гэблікам наш Мікалай!

Маці

Якія ж гэта, Канстанцін, дзівосы —
Наш Коля вырас, свету ён пабачыў.
І працавіты. А таго дваранства
Ў ім — ні на зерне макавае... Хват!

Бацька

Сынок, і праўда ж, хлопец майстравіты.
Во толькі тыдзень дома павярнуўся —
Глядзі, нібыта ў казцы той, альтанка!
Яшчэ дзянёк...

Мікалай

До! Перахваліш, тата...

Маці

То чуе сэрца — як жа ні старацца:
Нявесту, мабыць, хоча ў дом прывесці —
Дзе выглядзеў?.. Імя хаця назваў бы...

Мікалай

Што ж, мама, назаву імя вам. Савіч!
Любоўю Фёдараўнай велічаюць.
А родам з-пад Чарнігава.

Бацька

Дай божа!
Унукаў дачакаемся.

Мікалай

Не, тата.
Мне выпаў іншы лёс: я ў вас вандроўнік...

Маці
*(глядзіць на дарогу)*

Ну вось, цяпер абедаць мы ўсё ж пойдзем —
Да нас сам прыстаў...

Мікалай
*(насцярожана)*

Прыстаў?

Бацька

Са Мсціслава.
Маёнтак як купілі — ён ні разу
Не быў — між тым наведацца павінен.
Па службе.

Мікалай

Разумею. Ды ўсё роўна
Спаткацца з ім няма ў мяне ахвоты.

Маці
*(з трывогай)*

Сынок!

Мікалай

Мяне нямашака ў маёнтку.
А распытае — скажаце: паехаў.
Быў і паехаў! А куды — не знаем.
Магчыма, на Паволжа ці на поўдзень.
І недзе там... Ну, а цяпер ідзіце
І сустракайце госця дарагога.
Я ў будане за домам перабуду...
Ідзі і не хвалюйся, мама. Чуеш?..
*(Знікае.)*

Прыстаў
*(злазіць з брычкі)*

Дзень добры Судзілоўскім! Рады бачыць
Асэсара на пенсіі шчаслівым.
Такі набыць маёнтачак! Парк. Поплаў.
Прывабнае, утульнае гняздзечка!
Вось толькі што без птушанят. Кудысьці
Паклікаў іх, відаць, далёкі вырай!

Маці

Не, меншанькіх — дык не...

Прыстаў

Але што зробіш —
Такі наш час, бунтоўны і трывожны...

Бацька

Заходзьце, ваша дабрароднасць! Прошу!

Прыстаў

А гаспадынька штосьці не ў гуморы?

Маці

Як быць шчаслівай, ваша дабрароднасць,
Калі гняздо, як восенню, пусцее.
Вось дзякуй, завіталі вы нарэшце,
Наведаць жа даўно нас абяцалі.

Прыстаў

Пакуль сваю парафію аб'ездзіш...

Маці

Хаця прысядзьце.

П р ы с т а ў

Справу вызначэння
Найпершаснага маю...

М а ц і

Так адразу
Пра справы ўсё вы, ваша дабрароднасць?
*(Кухару.)*
Гэй, Мітрафан, стол накрывай хутчэй!
Ці ты не бачыш, хто да нас у госці!
*(Да прыстава.)*
Пра справы за сталом і пагамонім...

Б а ц ь к а
*(налівае з графіна ў кілішкі)*

Здаровы ж будзьце, ваша дабрароднасць!

П р ы с т а ў

Быў я ў ад'ездзе...

Б а ц ь к а

І, відаць, няблізка?

П р ы с т а ў

Няблізка. Так! Далёка! У Гаранах
Ля Полацка...

М а ц і

Дык ваша дабрароднасць!

П р ы с т а ў
*(выпівае)*

Пякучая!.. Народнікаў шукалі.
Гняздо сваё звілі там. От паршыўцы!
Царазабойцы!

Б а ц ь к а

Ну, і як?

П р ы с т а ў

Ды збеглі.
Усе да аднаго! Было, ў сябе
Памешчыца мясцовая прыгрэла,
Дазволіла стварыць ім ферму-школу.

Пасля яна ачомалася... Кажуць,
Ваш сын старэйшы, Мікалай, там цёрся?

Маці

Не можа быць! Яму нашто чужое?
Ёсць Фастава — хай толькі прыязджае.

Прыстаў

А я пра што? Маёнтачак цудоўны
У Фаставе! Гляджу, яшчэ альтанку
Будуеце...

Бацька

І за альтанку вып'ем!

Прыстаў

Эх, выпіць вып'ем! А калі ж павыб'ем
Гарэзію з пустых галоў? Ці чулі,
У Кіеве камуну разагналі?
Студэнтаў там і розных адшчапенцаў,
Што легкадумна на манер французскі
Супроць цара рашылі падбухторваць
Глухі натоўп. На вісельню іх трэба!
І нашых магілёўскіх — гэтаксама!
У Пецярбургу, у Маскве лавілі
Каторых. А ва ўсіх адно: замах!
Няма спакою...

Маці

Літасцівы божа!

Няўжо гасудара?..

Прыстаў

Яго самога
Задумалі са свету звесці змоўцы.

Бацька

Не, ваша дабраароднасць, не дазволім,
Каб на цара!..

Прыстаў

*(пстрыкнуў па графіну)*

Бландзіначкі дазвольце.
Кілішак! Вам, асэсару, скажу:

Глядзіце пільна! Гэта не пашкодзіць.
Усюды трэба «вока» мець ды «вока»!
*(Смачна крэкнуў.)*
А як старэйшы ваш, студэнт?

Бацька

Было
Навукай захапіўся... Толькі піша
Апошнім часам, што рашыў жаніцца...

Пры́стаў

Тэк-с, тэк-с!
*(Узняўся з крэсла.)*
Здаецца, меру перабраў.
Аж павяло ў бакі... Альбом? Цікава...

Прыстаў дастае акуляры з кішэні, не прыкмеціўшы, што ўпусціў паперку.

Так, бацька, маці на сямейнай картцы.
А гэта — Мікалай? Сваю руку
Вы, Канстанцін Сцяпанавіч, паклалі
Яму з любосцю на плячо: выходзіць,
За сына гонар у бацькоўскім сэрцы.
А гэта хто?

Маці

Яўгенія. Яна
Сярэдняя між дочак. Гімназістка.

Прыстаў

Хай вучыцца, шануючы бацькоў.
Ну, ну!..

Кухар налівае з графіна.

Ага! Яшчэ кілішак можна.
Э-эх!.. Дабрацца б мне да тарантаса!

Бацька надзявае прыставу шапку.

А!.. Шапка... Як жа нам без галавы!
Графін — на стол, а спатыкач — у ногі.
Бр-р-р! Службу моцнай лапаю трымаю.
Крамолу раскрамолю ўраз любую!
Цар ведае, каму даверыць справу!
*(Запявае.)*

Замкну хату на замок — чу-ча-ра, чу-ча-ра!
А сам пайду да дзявок — ку-ку! Ха-ха!..

Бацька

Бывайце.

Маці

З богам, ваша дабрароднасць!

Прыстаў
*(аддаляючыся)*

Добры вечар, дзеўкі, вам — чу-ча-ра, чу-ча-ра...
А я жонку пахаваў — ку-ку! Ха-ха!..

Судзілоўскія смяюцца.

Мікалай
*(уваходзячы)*

Пра што пытаўся?

Маці

Пра цябе, сынок мой.
Яшчэ ён згадваў нейкія Гараны.

Бацька
*(схіляецца)*

Паперка вось... Дык гэта ж ён згубіў!

Мікалай
*(бярэ паперку)*

А гэта ж спіс таемны! Паглядзіце.
У ім пра сына вашага вунь колькі
Напісана.

Маці

Дзе?

Мікалай

Вось я... Нумар дзесяць...

Бацька
*(Чытае)*

Так... Судзілоўскі Мікалай... Студэнтам
Ён часта бунтаваў у Пецярбургу.

Прагналі.
Стаў у Кіеве вучыцца,
Дзе назбіраў з народнікаў гурток,
Названы імі «Кіеўскай камунай».
*(Пазірае на сына.)*
Гадоў за дваццаць пяць табе, злачынцу...
Крыху ніжэй сярэдняга ты росту.
Русявы. Чысты і прыгожы твар.
З гарбінкай нос. І рэдкая бародка...

**Маці**

Ну й каіны! Забылі пра радзімку
Сказаць...

**Бацька**

...ён, Судзілоўскі, так заўсёды
Імкнецца апранацца, што нібыта
Ён па апратцы майстравы з арцелі...

**Мікалай**

Шкада, што не закончыў я альтанку.
Мне дні праз тры прывезлі б дакументы
На іншае імя. Не дачакаўся.

**Бацька**

Цясляр мой!

**Мікалай**

Я цяслярыць навучыўся.
Не беларучка. Поўдзень наш і поўнач
Ніхто так не схадзіў, як я з сякеркай.
Цяслярыў я.
І гаварыў з людзьмі,
Адумаліся каб ды гналі сон.
Я веру: мы народ яшчэ разбудзім.
Нас шмат...

**Маці**

А хто яны, твае сябры?

**Мікалай**

Сябры мае, таварышы Кавалік,
Каленкіна, Сцяпняк-Краўчынскі, Кабліц,
Дэйч... Сотні...

Маці

Сын, вас цар усіх загубіць!

Мікалай

Не зломіць суд і высылка не зломіць.
Мы выбралі дарогу, не саступім.

Маці

Мая крывінка!..

Бацька

Сын! Паслухай бацьку.
Цябе, усіх вас, бачу, скрозь абклалі —
Не вырвацца... Едзь да нявесты, чуеш?
Жаніся. Супакойся. Не яршыся
І не прасі ў цара спагады тое.
Не з тых ён, хто даруе... Я хацеў бы,
Каб ты забыў на ўсё — цябе забудуць.

Мікалай

А хіба птахі гнёзды ўюць тады,
Калі пара прыйшла збірацца ў вырай?
Чакаць, што вецер шчасце прынясе?
Сябе ў муры пустых надзей хаваць
І верыць, што галоўка ацалее?..
Даруй мне, тата.

Бацька

Сын, не мне табе
Дарогу выбіраць. Калі дзяўчыне
Даў слова ты...

Мікалай

Яе наведаць мушу.
Яна мяне павінна зразумець.

Маці

Сынок, але ж няблізкі свет — Чарнігаў.
Не дойдзеш пешшу. Па чыгунцы можна...
Ой, не, забудзь чыгунку! Там жа шпегаў —
На кожным кроку! Высачаць цябе...

Мікалай

Знайду я спосаб. Не хвалюйся, мама.

У гародзе пяюць дваровыя дзеўкі:

Ой, ляцелі журавочкі,
Пасеялі слёзы-крывінкі,
І ўзышлі, прараслі журавінкі...

Бацька

Найлепш у чоўне па Сажы падайся...

З гарода чуваць песню:

Журавы на адлёце кружылі,
У крыку смутным тужылі.
Адкрычаўшы, знямелі,
У чужыну паляцелі.

Мікалай

Спяваюць, што на сэрцы, у душы...

Маці
*(плача)*

Сумотна птушкі пакідаюць гнёзды...

Мікалай

Я не забуду гэтай песні, мама.
Прашу цябе, дай у дарогу мне
Кісет, які ты ўчора вышывала.
Там бераг Сожа, роднага да болю,
І шэры воўк, на ім — вярхом Іванка.

Маці

Не скончыла я, не паспела, сынку.

Мікалай

Здалёку, мама, я назад вярнуся —
Тады ты і закончыш свежай ніткай.

Маці збірае ў дарогу.

Бацька

Баішся — схопяць...

Мікалай

Нават смерці, бацька,
Я не баюся. Ды загінуць марна
Я не хачу. Пра гэта толькі маме
Нічога не кажы.

Бацька

Я разумею.
Каму ты, сыне, прысягнуў?

Мікалай

Народу.
Сваёй Радзіме і Народнай волі,
Радзіма без якой чужой здаецца.

Маці
*(з вузельчыкам)*

Ты штосьці з бацькам тоіш ад мяне?

Бацька

Пра волю гутарку вядзем, пра волю...
Але адкуль ён, буйны вецер, прыйдзе,
Калі разбудзіць нетры цёмнай пушчы?

Мікалай

Такі вятрыска ёсць — сыны Расіі.
Ёсць племя маладое. Гэта племя
Святло навук пазнала, горыч праўды.

Бацька

Былі арлы не толькі на Сенацкай.
Яны, як Пугачоў, з маны вялікай
Скрозь пачыналі, тут жа абвяшчалі
Сябе нашчадкамі цара, што царскай
Крыві яны і род іх знакаміты.
Яны супроць падману выстаўлялі
Падман ці не таму, што ў свеце больш
Няма надзеі між людзей, а праўда
Адолець крыўду зможа ў рэшце рэшт.
Табе, тваім сябрам не раз сялянскі
Пазнаць даводзілася цёмны гнеў,
Калі вы ўскласці на цара віну
Паспрабавалі...

Мікалай

Уцякалі нават
Ад мужыкоў, калі нас тыя ў рукі
Ураднiку ледзь-ледзь не аддалі.
Мы пойдзем толькі шляхам праўды, покуль
Яна не стане вераю народнай.

І нас не раз адчай цягнуў на дно.
Згнілі адны ў цэнтралах, і знявера
Даводзіла да самагубства іншых,
І нават да ганебнага — да здрады.
Ды між сяброў маіх і аднадумцаў
Было і застаецца шмат нязломных
Патужнікаў, што зломяць цёмны мур.

Бацька

Сумненняў жорны ў перамол тваю
Душу ўзялі. Самому мне вядомы
Бязлітасны каменны холад іх.

Мікалай

У нас не мара — мэта ёсць: стварыць
За межамі кайданнае Расіі
Такую лучнасць грамады, якая б
Змагла народ узняць супроць манарха,
І вырваць люд з ганебнага палону,
І адгукнуцца ў новых пакаленнях
Рэвалюцыянераў. Часам думаў:
Мы быццам жоравы, што прыляцелі
Заўчасна і прынеслі без пары
З сабою напамінак аб вясне.

Маці

Сынок мой...

Мікалай

Мама!

Маці

Любы... На расстанні
Вазьмі з сабой зямелькі нашай, Коля.
У гэтую зямельку на чужыне
Зярнятка кінеш — прарасце Радзіма.

Бацька

Лёс Каліноўскага табе вядомы.
Ён быў. Яго няма. І тысячы
Галоў з плеч пакаціліся. А іншых
Таксама недзе тысячы гібеюць
На катарзе сібірскай. Я малюся,
Каб ты жывы вярнуўся.

А на гародзе не моўкне песня:

Адкрычаўшы, знямелі,
У чужыну паляцелі.
На далоні маёй журавінкі...

## НА САЖЫ

Бераг ракі пад шатамі бору. У чароце, якім зарасла затока-старыца, Мікалай Судзілоўскі садзіцца ў човен. З кустоў разлёгся басавіты голас:

Спытацца трэба. Тут я гаспадар.
Ну, што супуціўся. Выходзь сюды!

Судзілоўскі

Хто вы?

Пархом

Ты з чоўна выйдзі і зірні!

Судзілоўскі

Дзень добры вам!

Пархом

Дабрыдзень, чалавек.
Сядай на пень — працягам дуба будзеш.

Судзілоўскі

Гляджу я, дубу век укарацілі.

Пархом

Але хіба ў цябе душа, нібыта
Той дзьмухавец?

Судзілоўскі

Суцішна тут, і вецер
Не распаветрыць дзьмухаўца.

Пархом

Ды ты
Сядай ямчэй. І перад дубам надта
Не выстаўляй, брат, гонару. Жыў мудра
Вячысты дуб. Не кланяўся нікому,
Самому перуну не саступаў,

Пакуль той бліскавіцаю зласліва
Не падпаліў бакі яго сівыя.
А я сякерай сажанёвы ствол
Счасаў, і вось, як стол, ён перад намі.
Харчуюся я тут. Прыемна думаць,
Што можа хоць крыху дуб перадаць
Сваёй мне сілы з каранёў глыбінных.

Судзілоўскі

Удзячны я спагадзе і пашане.

Пархом

Яшчэ калі цябе не бачыў я,
Мог думку мець, хто ты такі.

Судзілоўскі

Даруйце,
Не надта што ў прадбачанне я веру
Тых ясназорцаў, ведаюць якія
Пра долю-лёс вандроўніка, не чуўшы,
Не бачыўшы.

Пархом

Каб думка не блудзіла,
Спыню цябе. У гэты кут вярнуўся
Я толькі ўчора. А хадзіў жа я
Далекавата, гэтак вёрст за дваццаць.
Жыве адзін там графскі палясоўшчык.
Жыве ў засценку. Я мяняць насіў
Туды мірона вэнджанага, зёлкі,
Што ад зямлі лясной і лугавой
У добрай змове з сонцам сок гаючы
У сцёблы набіраюць, як пітво.
То лекі ад хвароб падступных, хлопча.
Дык я й занёс — хай спажываюць людзі.
Мне круп яны адсыпалі на кашу,
І солі нават.

Судзілоўскі

А вы тут адны?

Пархом

Ты малады і нецярплівы, бачу.
Як паджаробак, што каню старому

Дарогу забягае на пачатку.
Пасля прыстане, галаву апусціць
І ледзьве-ледзьве цягнецца за возам.
Тут конь стары і вымушаны збочыць
Са шляху на папас. Я кашу ўспомніў —
І ты ўстрывожыўся: відаць, не еўшы,
Як той мядзведзь, што за зіму схуднеў,
На Юр'я на нішчымнага нарэшце
З бярлогі вылез, згаладаны ўшчэнт.

Судзілоўскі
*(усмешліва)*

Ад праўды мне не збегчы.

Пархом

Пацярпі.
Не забягай — бліжэй к папасу будзеш.
Хадзіў я не адзін. Са мной была
Прыручаная чапля. Дык яна
Ўстрывожылася раптам: круг зрабіўшы,
Апала на маё плячо імгненна,
І ў птушкі задрыжала дзюба,
Спалохана зашчоўкаўшы. Выходзіў
Я на дарогу стоена. Пачуў,
Як фыркнуў конь. Затым — і галасы.
Я ненадоўга затрымаўся там.
Мы з чапляю гушчарнікам глухім
Паціху месца абагнулі тое,
Пайшлі сваёй сцягою.

Судзілоўскі

Хто ж дарогу
Вам заступіў?

Пархом

Я і чакаў, што ты
Спытаеш. Так бывае: чалавек
Куды больш пра сябе тады гаворыць,
Калі пытае. Многа менш, калі
Расказвае ён пра сябе. Жандараў
Засела зграя там. Крумкач цікуе
Хвіліны, калі кроў ахаладзее,
Жандар цікуе кроў адно жывую.
Што скажаш? Ці не так?

Судзілоўскі
*(з усмешкай)*

Калі пытае,
То пра сябе гаворыць чалавек.

Пархом

Спрыцён на слоўца! Хай жа будзе так,
Нібыта я і не пытаў. Вунь каша
Пад папараццю. І гарбата побач.
Не надта, праўда, каб зусім гарбата,
Падвар з травы-буцейкі, што казінец
З ног выганяе. Дзікага мядку
Для госця знойдзецца падгарчык. Еш!
Еш, чалавек.
Адна вось толькі лыжка.
Тады табе і пачынаць.

Судзілоўскі

Не трэба.
Ёсць ножык у мяне.

Пархом

Хто есць нажом,
Той з'есць ражон. Мы лыжкаю адной
Лепш паямо. І будзе, можа, лепш
Табе са мной інакш загаварыць?
Еш, чалавек... Табе я «ты» кажу,
А ты мне «вы» ды «вы». Вось лыжка нас
І параўнае.

Судзілоўскі

Проста як і мудра!

Пархом

Дык ведай: лыжка некалі людзей
Няроўнымі зрабіла. Бо дужэйшы
Ўзяў большую, а меншую — слабы.
З таго пайшла няроўная дзяліцьба.
Адсюль пайшоў нязводны ўвесь падман.
І тут і там.

Судзілоўскі

Калі б на ўсіх ды лыжка
Адна была!

Пархом

Жуй, чалавек, жуй лепш.
Не разжуеш — і смаку не пазнаеш.

Судзілоўскі

Хто вы такі?

Пархом

Калі зноў кажаш «вы»,
Да дна вышкрэбвай кашу.

Судзілоўскі

Мне таго
І трэба, мусіць.

Пархом

Што ж, яшчэ наварым.
Да вечара далёка. Ты пытаеш,
Хто я. А на тваё як вока? Ну?

Судзілоўскі

Маглі б вы мне за дзядзьку быць.
Па ўзросту.

Пархом

Напэўна. Дык хіба плямяш не можа
Сказаць у шчырасці бяскрыўднай дзядзьку
«Ты»?

Судзілоўскі

Можа. Так! Каго сустрэў я сёння
Тут, на Сажы, сказаць нялёгка: хто ён,
Не ведаю. Ды не хачу, прызнацца.

Пархом

У нетрах, між Дняпром і Сожам, закуць
Надзейная мая. Як зваць цябе?

Судзілоўскі

Мікола.

Пархом

Дык Мікола... Што ж, цікава!
Але на ўгодніка ты не падобны

Пахваткаю. Не з ціхага гнязда
Узвіўся сокал. Пі, юнак, гарбату.
Напэўна, ведаеш ты гарадок унізе,
Завецца Веткай. Там на свет з'явіўся
І там асірацеў. І закруціла
Шалёным вірам доля мая крута.
Павінен быў рабіць я ўсё, бо ўсім
Памочнік быў. У рыбака, у цеслі,
У бортніка, у каваля. Было,
І ў балагола там ці ў скамароха.
Усюды быў адзіны паратунак —
Умей і паспявай! Усё я мусіў
Умець. Мяне прыставілі аднойчы
Да панскай псярні нават. І стары
Ахрэм, з вядзьмарскай хваткай егер, выць
Па-воўчы навучыў мяне. Я выў.
Выў, да зямлі прыпаўшы, і выводзіў
Выццём ваўчыну зграю на сябе.
Паны забаву мелі. Асабліва
Калі ўдавалася ваўкоў напляжыць.
Аднойчы зграю на сябе я вывеў,
Ды іншая забава паляўнічых
Спыніла недзе. На мяне глядзелі
Жахліва вочы воўчыя і хіжа
Гарэлі. Я ад страху выў зацята.
І думалі ваўкі, чаму тут верыць —
Вачам альбо вушам?

Судзілоўскі

Відаць, вушам?
Інакш я не сустрэў бы вас сягоння...

Пархом

Мікола, эх, Мікола... Я адзін
Перад табою, а ты зноўку «вас»...

Судзілоўскі

Не буду больш. А што далей?

Пархом

Ахрэм
На выручку мне прыскакаў. З сядла
Саскочыў ён, ударыў з дубальтоўкі,
І воўчая разбеглася аблога.

А я свой голас страціў, анямеў.
Мяне прагналі з псярні. На Сажы
Я пасяліўся, як манах, у пушчы.
Рака і паплавы, дубы і сосны,
У хмарным небе вырай жураўліны
Са светам размаўляць зноў навучылі.

У месячным святле пераліваецца рухомае серабро ракі. На вёслах Судзілоўскі і Пархом.

Пархом

Не першы ты ўцякач, стрывожана пануры,
У Сожа на плячах калышаш хмары-думы.
Мой дзед —
На свеце ён сто вёсен адвяслярыў —
Калісьці човен гнаў апоруч з Пугачовым.

Судзілоўскі

Сівая байка.

Пархом

Што ты! Ямеля здзёр пагоны,
Прыгнёт салдатчыны
Пракляўшы ў царскім войску.
Хаваўся ён у нас, у кузні старавера —
У Ветцы
З веку ў век для вальнадумцаў прыстань.
Смалой, свабоды ветрам, далечынёй прапахлі
Каната скруткі там і лайбы з якарамі.

Судзілоўскі

А Пугачоў?

Пархом

Арол на родны Дон падаўся.
Глядзі! За згонам згон у досвітным тумане
Плыты, плыты плывуць.
Мы з маху іх нагонім!..
З баграмі плытнікі, і хатка вунь на згоне.
Куды, куды вы, хлопцы, з роднай баравіны?

Галасы:

— А мы ў Дняпро!..
— Ў Дняпро!..
— На Украіну!...

Пархом

Тады ў арцель вам з ходу дзецюка падкіну!

Судзілоўскі

Бывай, Пархом, бывай.
Развёў ты мне бяду ўсю.

Пархом

Адно хачу, каб ты на родны Сож вярнуўся.

## ПАРОМ НА ДНЯПРЫ

## (Чэрвень 1874)

Вячэрні парк на высокім беразе. У ліповай алеі цьмяна бялеюць дзве постаці.

Савіч

Гняздзечка мы звіем сабе ў Маскве.
З цябе цудоўны доктар выйдзе! Буду
Я шчабятаць: «Прафесар Судзілоўскі...»
Ды ты мяне не чуеш! Мусіць, любы,
Чарнігаўскай красою паланёны
І вечным, як зямля гэта, Дняпром?

Судзілоўскі

Я тут і ўжо не тут. На сэрцы скруха.

Савіч

Сказала маці я: ты сёння ў нас
Вячэраеш...

Судзілоўскі

Даруй, Любаша. Я
Застацца не магу, бо чорны воран
Пасе мой лёс і днём і ноччу кружыць.

Савіч

А я?

Судзілоўскі

Я напішу табе здалёк,
Прыедзеш, калі толькі пажадаеш...

Савіч

Чакай, чакай... Што з Кіеўскай камунай?
Усё, напэўна, скончана?

Судзілоўскі

Тваё
Імя не значыцца ў таемным спіску.

Савіч

Мы добра пачыналі

Судзілоўскі

Апантаны,
Нарыхтаваў я карт геаграфічных
Зямель Паволжа, Падняпроўя, поўдня —
Куточак кожны там павінен ведаць
Рэвалюцыянер, і я — таксама.
Усе мы зразумелі: каб мець права
Адным жыццём павечна жыць з народам,
Перш-наперш трэба нам жыццё змяніць
І толькі з працы жыць: я цеслем стаў.
Бянецкі, Кабліц, Фішар шылі боты.

Савіч

Больш года ў краме скаратала я.
Краўчыхаю Засуліч Вера, помніш?
Каленкіна і Валкенштэйн паспелі
З Вахоўскай панастаўнічаць. Данецкай
З тваёй сястрою Жэняй давялося
Пакаштаваць прыказчыцкага хлеба.

Судзілоўскі

Брашкоўская капалася ў гародах,
І цётку Брэшку ведалі ў прадмесцях.
Заробленыя грошы кожны ўносіў
У касу.

Савіч

Кнігі набывалі мы,
Апратку, харч.

Судзілоўскі

Узнікла так яна,
Камуна наша Кіеўская. З ёй

Рэвалюцыйныя гурткі Паволжа
Радніліся, хінуліся да нас
Рэвалюцыянеры Пецярбурга,
Масквы і Пензы, Харкава, «чайкоўцы».
У Кіеўскай камуне кожны мог
Майстэрствам барацьбітным авалодаць
Ці навучыцца шыфравальнай справе.

Савіч

А колькі лекцый прачытаў ты, Коля,
Па філасофіі, па палітычнай,
Я помню, эканоміі...

Судзілоўскі

І кожны
Мог адпачыць у нас пасля дарогі,
У вёску ж ад'язджаючы, сабрацца
Ці пераапрануцца, атрымаць
У нас патайных явак адрасы.
Камуна стала як бы штаб-кватэрай
Усіх, хто зваўся «хадакі ў народ».
Пашкамутала люта камунараў
Ахранка царская — усё ж, лічу,
Застаўся дух Камуны, дух яднання
Рэвалюцыйных сіл. Шляхоў назад,
Да адступлення, нам няма.

Савіч

Мой любы!

Судзілоўскі

Мяне шукаюць. Я чакаць не буду,
Пакуль начэпяць кайданы на ногі.
Пацягнуцца тады гады, як хмара
Нязводная... Я вырвуся адсюль
І ўсё зраблю, да рэшты сіл астатніх,
Каб Русь, ад хваль балтыйскіх да Амура,
Русь Белая мая і Украіна
Сустрэлі свой світальны дзень
І выйшлі на абшар свабоды!

Савіч

Не толькі я — алеі гэта чуюць.
Тут ліпы чулі прадзеда майго

І дзеда. Я б хацела, каб пачулі
Яны і ўнукаў нашых...

Судзілоўскі

Я дадому
Тады вярнуся, калі наш народ
Падымем мы і разам з ім змагу я
Ўзяць у адну сваю руку паходню
І зброю — у другую. Ведай, зброю!

Чуваць бразгат шамкоў — хтосьці едзе сюды.

Не засмучайся. Праўдзі мяне
Сцяжынкаю да лесу. Там чакае
Мяне фурман.

Савіч

А як жа... як жа я?

Судзілоўскі
*(знікаючы)*

Бывай, Любаша!

Савіч

Да спаткання, родны.

Дзявочая постаць прывідна бялее ў прысадах. Ля дзяўчыны спыняецца задыханая тройка.

Ротмістр

Паненка, я вітаць вас маю гонар!
Дазвольце на зямлю сысці, зямному
Мне пакланіцца хараству. Вы — Савіч?

Савіч
*(схіляе голаў)*

Хіба дарогу заступіла вам?

Ротмістр

Не, не! Я сам тут загадаў спыніцца.

Савіч

То дзякуй вам за гонар, мілы рыцар.
Дарога вас чакае.

Р о т м і с т р

Выбачайце,
Паненка Савіч! Мушу затрымацца.
Гэй, вахмістр Шаўлюкоў, агледзець парк!
Я знаю, дваранін...

С а в і ч

Што?

Р о т м і с т р

...Судзілоўскі
Не першы год знаёмы блізка з вамі.
І я павінен папярэдзіць вас:
Калі вам любы ён, тады дазвольце
Яго пабачыць.

С а в і ч

Вас не разумею.

Р о т м і с т р

Ён малады, няўрымслівы, гарачы.
Як вецер. Той вятрыска шалавіты,
Што і паненкам, як бывае часам,
Псуе прычоскі.

С а в і ч

Ой, даруйце, часу
Не маю я пра вецер разважаць.

Р о т м і с т р

Дарэмна зневажаеце, паненка.
Дзе Судзілоўскі зараз? Неадкладна,
Хутчэй дазвольце мне яго пабачыць!

С а в і ч

Крыху спазніліся вы, пане ясны.
Быў тут ён, ды паехаў.

Р о т м і с т р

Як? Куды?

С а в і ч

Ажно ў Маскву. Мы жыць там будзем. Адрас
Магу вам даць. Мікіцкая, трынаццаць.

Ротмістр

Кватэра? Помніце?

Савіч

Трынаццаць.

Ротмістр

Бач ты!
Два тузіны чартоўскія!

Савіч

Затое
Пад сілу пану ротмістру запомніць.

Досвіткам завозна на дняпроўскім пароме: галас, вазы, брычкі, груды скрынак, кошыкі — хто ў поле, хто на ранішні рынак, хто з далёкай ці ў далёкую дарогу. Адчальвае цяжкагружаны паром. З-за пагорка вылецела жандарская тройка. Прарэзлівыя свісткі, каб запыніўся паром.

Селянін

Тпру! Мілы чалавек, дапамажы!
Пакуль я гэта на паром уз'ехаў,
Намэнчыўся з канём. Бач, як храпе:
Дняпра не бачыў... Дужая рака!

Ён крычыць Судзілоўскаму, якога цяпер не пазнаць: тырольскі капялюш, куртка, боты, рыжая барадка.

Э, мілы чалавек, не разумееш
Па-нашаму?..

Судзілоўскі

Гут! Гут! Дніпро... Дні-про-о-о!..

Селянін

А-а... З каланістаў, мусіць... Значыць, немец.
Пан ахвіцэр, я замінаць не буду.
Лявей падамся з возам. Тпру! У, чорт!

Ротмістр

На д'ябла гэты каланіст падобны.
*(Насцярожана.)*
Два тузіны... Маскоўскі адрас...

Судзілоўскі
*(смяецца)*

Гут! Гут!

Ротмістр

Гэй, Шаўлюкоў, ідзі сюды!

Вахмістр

Арыштаваць? Не, гэтага няможна.
І праўда ж, каланіст. А праз яго
Ў няміласць трапім да гасудара.
Такія немцы скрозь тут, на Дняпры —
Указам царскім дадзены валокі.

Ротмістр
*(ціха вахмістру)*

А Судзілоўскі? Судзілоўскі дзе?!.

Вахмістр

На тым ён, пэўна, беразе даўно.

Ротмістр

Адчальвай! Ды хутчэй, жвавей, паромшчык!

Вахмістр

А вось і сонца.

Ротмістр

Мне б зацьменне лепш.

Вахмістр

Царазабойцы за мяжу — цю-цю!

Ротмістр

Тут каланісты, там — царазабойцы.

Вахмістр

Але за рэдзьку хрэн не саладзейшы.

Паром марудна скрануўся, падаўся ў развароце — кармой па плыні.

## ВЕТРАЗЬ РАССТАННЯ

### (Адэса. Лістапад 1874)

Гамана і дым пад скляпеннем партовай карчмы, дзе густа віснуць пах вэнджанай скумбрыі і каланіяльны водар кавы. Чорнабароды балгарын чытае вершы бічам-прыкіпалам.

Хрыста Боцеў

Цяжка, цяжка!.. Віна дайце!
Каб забыць, не бачыць нават,
Як вы, дурні-марнатраўцы,
Ганьбу зблыталі са славай!
Каб забыць мне край свой родны,
Дом, дзе ў гневе мы маўчалі,
І тых, што мне дух свабодны,
Дух змагання завяшчалі!
...Вып'ю ўсё, на злосць чужынцам
І вам на злосць, патрыёты!
Больш няма мне тут цаніць што,
А вы... а вы — ідыёты!

Судзілоўскі
*(падсеў да століка)*

Экспромт такі занатаваць патрэбна,
Каб свет век помніў.

Хрыста Боцеў

Запісаць? Пяро!..

Судзілоўскі

Ад жураўля... Вось, калі ласка!

Хрыста Боцеў

Пушкін
Амаль такім пісаў тут, у Адэсе.
Хлушу я — з лебедзя было пяро.

Судзілоўскі

А жураўлю, выходзіць, менш даверу?

Хрыста Боцеў
*(шэптам)*

Прычаліць неўзабаве наша яхта.
Галоўнага дзяржаўнага злачынцу

Расійскае імперыі даставіць
Цераз граніцу даручылі мне.

С у д з і л о ў с к і

Балканам дзякуй! Значыць, яхта... мол...

Х р ы с т а  Б о ц е ў

Знікаю. Ты ў таверне заставайся.
Навокал шпегі. Асцярожным будзь!
Цікуе за табой адна дзяўчына.
А выйдзеш — з Дэрыбасаўскай шыбуй
На Кацярынінскую і агледзься —
Мянялы там заўсёднікі. А ты —
Валютчык. Ты не каланіст — валютчык.
Бывай і да сустрэчы!

С у д з і л о ў с к і

Да сустрэчы!

Ён прыглядаецца да д з я ў ч ы н ы за столікам у кутку.

Няўжо сястра? Пакутніца... Яна!

Я ў г е н і я
*(у думках)*

Мой брат, мой любы...

С у д з і л о ў с к і
*(у думках)*

След у след за мной
Ішла як па лязу яна. Няўжо
Сябры паслалі ці сама рашыла?

Я ў г е н і я
*(у думках)*

Не падыходзь! Не выдавай сябе!
З табою Хрыста Боцеў гаварыў.
Даверыцца яму заўсёды можна.
Вучыўся ён, я чула, у Адэсе.
Балгарскі брат з расійскім выхаваннем.

С у д з і л о ў с к і
*(у думках)*

Эх, Жэня! Дзеля брата-валацугі
Жыццём ты рызыкуеш...

Яўгенія
*(у думках)*

Пра мяне
Не думай. Пад скляпенне, паглядзі,
Сумніцельныя тыпы завіталі.
Афіцыянта клічаш... Разлічыўся...
Таверну пакідаеш... Віжукі —
Услед. Няўжо цябе я не ўратую,
Загнаны браце...

На вуліцы.

Судзілоўскі
*(у думках)*

Ах, сястра, сястра!..
Вось рог і Кацярынінскай... Сюды
Дастаўся як валютчык да мянялы.

Яўгенія
*(непадалёк, у думках)*

Рундук зялёны, і сядзіць мяняла
У старасвецкім аблыселым крэсле.
Да крэсла, каб не апаліла сонца,
Прывязаны шырозны парасон.
Ты папраўляеш на плячах мянялы
Прапахлыя цыбуляй лахманы.
Твая рука ў яго касцістых пальцах.
Табе ён усміхаецца... Ссыпае
У скрыню медзь і срэбра. Грошы, грошы...
Людзей ты ўмееш да сябе хінуць!
Нібыта выжлы, знервавалі шпегі:
Валютчык і мяняла ў нейкай змове.

Яўгенія заступае дарогу агентам, учапіўшыся ў аднаго з іх.

Ратуйце! Хоча згвалціць ён мяне!..

Галасы:

— У нас на Малдаванцы сёння шухер?
— Любошчы!..
— Будзе з ім, як з мёртвым Шойлам...

Ротмістр

Валютчык з ёй, напэўна, заадно?

Воклiч:

— Такое для Адэсы — непрыгожа!

Агент
*(Яўгеніі)*

Ну!.. Адпусці! Не паўтараю двойчы.

Воклiч:

— Сам шкрабай пешшу ты да рабі Борух!

Агент
*(у натоўп)*

Не падыходзь! Страляю!.. Пане ротмістр,
Там — яхта!

Ротмістр

Дзе?

Агент

Ад мола адыходзіць.

Агент адрывае ад сябе зняможаную Яўгенію.

Мяняла

Валютчык збег... Пайду да Анькі Шнэйвэйс...
Яўрэй-нябога... Франкі... цэнты.. ліры...
Крыж... знак Асмана... іерогліф... леў...
Пайду да Анькі Шнэйвэйс...

Ротмістр

Затрымаць
Заступніцу-хаўрусніцу, вароны!

Гучыць нечакана тут, над паўднёвым портам, песня ляснога краю:

Ой, ляцелі журавочкі,
Пасеялі слёзы-крывінкі,
І ўзышлі, прараслі журавінкі.
Журавы на адлёце кружылі, кружылі.
У крыку смутным тужылі.
Адкрычаўшы, знямелі.
У чужыну паляцелі.

У марскім блакіце, аддаляючыся, бялее яхта.

На далоні маёй журавінкі,
זледзянелыя крывінкі.
Ледзяныя, ды цёплыя,
Бо свае яны, родныя.

# Вулканы Еўропы



Пасля выступленняў Маркса і Энгельса,
на трыбуне Судзілоўскі, беларус,
шкадаваў, што залішне юны ўзрост
не дазволіў яму браць удзел
у паўстанні 1863 г.,
але жыццё, якое тады кіпела вакол яго,
пабудзіла ў ім глыбокае спачуванне
да гераічных абаронцаў волі
і сталася апірышчам яго адносін да гэтага руху.

Польскі часопіс «Wici» —
Цюрых, 30 студзеня 1875 г.



## ТРЫВОГА Ў ЗІМНІМ

## (Снежань 1874)

Цар Аляксандр II прымае шэфа жандараў і галоўнага начальніка «Трэцяга аддзялення» графа Пятра Шувалава. Гэта не пачатак, а працяг стрывожанай размовы.

Ш у в а л а ў

За вас аддам жыццё!

А л я к с а н д р II

Маё жыццё
Вісела ўжо на павуцінцы двойчы:
Яго сарваць паганаю рукой
У час пралесак
Меціў Каракозаў
І растаптаць імкнуўся Беразоўскі.
Кручча...
Нарадавольцы...
У палацы
Сядзіш на троне,
Як на бомбе.
Чулі, блукае па Еўропе нейкі прывід?

Ш у в а л а ў

Здань камунізму.
Гэта з «Маніфеста...».

А л я к с а н д р II

Ёсць Маніфест на свеце толькі царскі!
*(Злосна.)*
Чаму з камуны Кіеўскай яшчэ
Блукаюць галадранцы на свабодзе?

Шувалаў

Яны, ваша вялікасць, як адзін
Арыштаваныя.

Аляксандр II

Не ўсе.
Чаму?

Шувалаў

Узяты завадатары па ўсёй
Расіі.

Аляксандр II

Але кіеўскае гідры
Галовы не абсечаны.
Яшчэ
Ёсць нехта Судзілоўскі.
Дык скажыце:
Ён вамі ўзяты?

Шувалаў

Ён уцёк за мора.
Ішлі па следу.
Ды хіцёр,
як рысь.
Яго сястрыца ў крэпасці цяпер.

Аляксандр II

Сініца ў клетцы — для дзятвы забава.
А журавель за межамі дзяржавы?
*(Смяецца.)*
Эх, Пётр Андрэевіч, дарадца верны,
Дым Севастопаля на вашых скронях,
Рука дыктатара —
назвала світа
Пятром Чацвёртым вас.
Таму шаную.

Шувалаў

Як страж Айчыны я да вас прыходжу
З той непрыкрытай праўдаю, якая
Павінна перад яснасцю вачэй
Майго гасудара з'явіцца босай.

А л я к с а н д р II

Не-не!
Атаясамліваць, мой граф,
Дзяржавы нашай праўду з грэшнай Евай
Не трэба...
*(Смяецца.)*
Што вы маеце на ўвеце?

Ш у в а л а ў

Калі захопімся мы толькі плахі
Стаўляць усюды і галовы секчы,
Ды на вачах народа,—
Небяспечна!
Б'е звон па нас.

А л я к с а н д р II

Вы хочаце сказаць...

Ш у в а л а ў

Газета Герцэна гала́с спыніла.
Мяне трывожыць наш памост крывавы,
Бо плаха і пятля —
Прылады сілы
Надзвычай дзікай, жудаснай.
Народ
Разважыць можа:
А ці варта шмат
Галоў людскіх дзеля галоў дзяржаўных
Сячы...

А л я к с а н д р II

Вы пабаяліся сказаць —
Дзеля адной?

Ш у в а л а ў

Павязаны мы лёсам,
І калі б плаха пагражала дзвюм
Галовам,
Ці так важна ўжо, якая
Адкоціцца з іх першай.

А л я к с а н д р II

Дыпламат!
*(Задумаўся.)*

Ш у в а л а ў

Меч кары,
Даўжыні якой не быў бы,
За межамі не ўсюды дастае
Ён самых небяспечных інсургентаў.

А л я к с а н д р II

Калі папросіць нас сама Еўропа
Дапамагчы ёй справіцца з брыдотай —
Я навяду парадак як належыць.

Ш у в а л а ў

Пара нам службу тайную ў Еўропе
Пашырыць.
У Амерыцы — таксама.

А л я к с а н д р II

Пасля Парыжа Альбіён туманны
Каўчэгам прывідаў і зданяў стаўся.
Паслом у Лондане,
на страх крамоле,
Я прызначаю вас, дарадца верны.

## НА ТЭМЗЕ ПРЫВІД КАСТУСЯ

## (Лондан. 23 студзеня 1875)

На мітынг, прысвечаны 12-й гадавіне паўстання 1863 года ў Польшчы, Літве і Беларусі, сабраліся прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай эміграцыі Францыі, Расіі, Германіі. Найбольш прадстаўнічая дэлегацыя «Люду польскага» — секцыі I Інтэрнацыянала: побач з палякамі беларусы, украінцы, літоўцы, чэхі, сербы.

К а р л М а р к с
*(выступае)*

Не толькі адзіны славянскі народ,
Польшча — адзіны ў Еўропе народ,
Рэвалюцыйным хрышчоны агнём,
Як усясветны свабоды салдат.
Амерыка, Венгрыя, Францыя — скрозь
За волю лілася братэрская кроў.

Лепшых сваіх генералаў, салдат
Польшча Парыжскай камуне дала!
Рабочае партыі мэта — скрышыць
Крывавых падзелаў, прыгнёту ярмо!

Апладысменты.

Я веру:
свабодай абвеснены свет
З братэрскай пашанай яшчэ пакладзе
Жывыя вянкі на скрываўлены брук
Варшавы і Вільні, дзе грозна маўчыць
Грымотнае рэха паўстанцкай хады!

Авацыя.

Энгельс
*(Урублеўскаму)*
Надоечы рускі часопіс «Вперед»,
Які выпускае тут Павел Лаўроў,
Цікавы артыкул змясціў.
У мяне,
І ў Маркса таксама, пытанне да вас:
Дзе аўтар?

Урублеўскі
А хто?

Энгельс
Судзілоўскі.

Урублеўскі
Ён тут,
З сібернай Расіі, падсудны, уцёк.

Энгельс
Цікава, што скажа лясны журавель.

Урублеўскі
Паслухаем...
Пан Судзілоўскі з Масквы!

Судзілоўскі
На Белай Русі караніцца мой род —
На Тэмзу з Дняпра прыляцеў зімаваць:

Дыханне Гальфстрыма,
туман ды цяплынь...
*(Задумаўся, хвалюючыся.)*
Калі з Каліноўскім вы ўдарылі ў звон,
Парыжскай камуны герой генерал,—
Мне толькі трынаццаць было.
Гімназіст,
Я думкай у бурах паўстання лунаў...
А часу таго навальнічны азон,
Ён жывіць усіх, хто надаўся ў народ,
Усіх, хто пакуе снарад на цара
(У світцы работнай і я сярод іх).
У дыме прадмесцяў,
у мораку стрэх —
Апірышча вернае барацьбітоў.
Паўстанне ж чынілі перш-наперш панкі,
Дваровы, узброены косамі люд,
Студэнты са шляхты...

Урублеўскі

Хвілінку, адну!
Прабачце, шаноўны.
Паўстанне хіба
Паўстаннем шляхецкае Польшчы было?
Знаёмыя байкі!
Літва, Беларусь
Паўсталі — ішлі на маёнткі бары.
Магчыма, у вас там...

Судзілоўскі

І ў нас, на Дняпры,
Чырвоны пяюн па маёнтках ляцеў.
Ды ўрад схітраваў,
абвясціўшы тады:
Маўляў, гэта бунт шляхцюкоў ды паноў,
Якія баяцца, як смерці, таго,
Што цар скасаваў спакопвечны прыгон...

Прыціхла зала. Урублеўскі штосьці занатоўвае ў кніжачку.

Судзілоўскі

І з вамі не ўсюды сяляне пайшлі,
Хаця іх нямала і ў нас палягло.

Энгельс

Кангрэсавай Польшчы вядомы нам рух
Выходзіў і выйдзе за межы яе
У лучнасці братняй з Расіяй, Літвой
І вашай радзімай.

Судзілоўскі

Захмарыў разгром
Паўстання мільёны засмучаных душ.
Як хораша Маркс гаварыў пра вянкі,
Што лягуць з пашанай на віленскі брук,
Дзе стыгне пачварнае вісельні цень!
Кастусь Каліноўскі,
змагар і паэт,
Пакінуў «Пісьмо» нам з-пад чорнай пятлі:
«Бывай здаровы, мужыцкі Народзе!
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго...»

Прамоўца раптам пазнае ў залі вальяжнага грукача. Гэта граф Шувалаў. Без генеральскіх эпалет.

Судзілоўскі

Вачам я не веру!
А ці сон, ці міраж?
Шувалаў, глядзіце, сюды завітаў!
Дзясніца цара,
найвышэйшы жандар,
Жандара Еўропы жандар-пасланец.

Усе азіраюцца, шукаючы вачамі рускага пасла. Шувалаў, насунуўшы на вочы цыліндр, прабіваецца да дзвярэй.

Воклічы абурэння:

— Кацюга!..
— Падступнік!..
— Жандар-пасланец!..

Да Судзілоўскага падыходзіць Карл Маркс.

Карл Маркс

І трыбуна, гляджу,—
Барыкада для вас!

